№13(39)
14.04.95

# Беларуская маладзёжная

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.



12 красавіка адбылася прэс-канферэнцыя дэпутатаў апазыцыі, якія праводзілі галадоўку. Яны паведамілі, што 11 красавіка ў 20.11. нехта патэлефанаваў ананімна ў органы ўнутраных справаў ды паведаміў, што Дом ураду замінаваны. У зьвязку з гэтым начальнік аховы Дома ўраду Міхаіл Цісавец ды начальнік аховы Прэзыдэнта нехта Каралёў, які не прад'явіў ніякіх дакумантаў, са спасылкаю на згоду М. Грыба й загад Прэзыдэнта запатрабавалі вызваліць памяшканьне. Дэпутаты, якія праводзілі галадоўку, не падпарадкаваліся. У 22.20 Цісавец з палкоўнікам Грамадзянскае абароны й групаю разьмінаваньня прыйшлі ў Дом ураду ды пачалі шукаць міну. Яна не была знойдзеная. Быў складзены пратакол, які падпісаны з аднаго боку групаю разьмінаваньня, зь іншага боку — дэпутатамі, у прыватнасьці дэпутатам Трусавым, што бомбы няма. У 23.30 Цісавец ды Каралёў ужо без спасылкі на міну запатрабавалі ад дэпутатаў, каб тыя пакінулі памяшканьне. Пісьмовага загаду не паказалі, але спасылаліся на Прэзыдэнта. Пры кожным зьяўленьні ў зале Цісаўца, запальвалася сьвятло ды ўключаліся відэакамэры. У 02.35 дэпутат Голубеў пачуў з фае нейкі шум. Калі ён выйшаў у фае, дык убачыў там людзей у масках, з дубінкамі ды аўтаматамі. У 02.44 у зале яшчэ раз зайшлі Цісавец ды Каралёў, якія загадалі пакінуць памяшканьне й далі на гэта пяць хвілінаў. Дэпутаты не падпарадкаваліся, людзі ў чорных павязках накінуліся на йіх, білі рукамі, нагамі й дубінкамі, выцягвалі з памяшканьня кожнага паасобку. Форма гэтых людзей ня мела ніякіх апазнавальных знакаў. Дэпутатаў вывезьлі ў «варанках» далёка ад Дома ўраду.

Народны дэпутат Беларусі сп. С. Навумчык:

— На кожнага дэпутата прыходзілася па пяцьдзесяць афіцэраў ды жаўнераў. З раніцы мы пайшлі да Грыба. Потым быў Прэзыдыюм Вярхоўнага савету, і Грыб, як заўсёды, абяцаў, што ўсё будзе добра, што ва ўсім раззьбяруцца. Прэзыдыюм быў даволі рашучы, прынамсі, ставілася пытаньне пра імпічмэнт Прэзыдэнту.

А ўжо на наступны дзень, пад час выступу па сэсіі, прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што кантраляваў сытуацыю ад пачатку й да канца. Не прэтэндуючы на ісьціну, але ўсе ж такі можна меркаваць, што людзі ў масках — гэта тая самая славутая ўласная ахова прэзыдэнта, бо йначай, калі ўсё робіцца па законе, навошта прадстаўнікам гэтага самага закону хаваць свае твары!

* * *

11 красавіка 1995 г. у 9.20 раніцы дэпутаты Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту аб'явілі ГАЛАДОЎКУ ў цэнтры парляманцкае залы Вярхоўнага Савету.

Дэпутаты Народнага Фронту выступаюць:

— супраць незаконнага рэфэрэндуму, якім прэзыдэнцкая каманда прыкрывае рабаваньне нашага народу й свае плэны здаць Беларусь расыйскай мафіі;

— за свабоду прэсы, радыё й тэлебачаньня ад прэзідэнцкае цэнзуры;

— за прыцягненьне да адказнасьці карупцыянэраў.

**ГАЛАДОЎКУ АБВЯСЬЦІЛІ:**

Зянон ПАЗЬНЯК
Мікалай АКСАМІТ
Сяргей АНТОНЧЫК
Лявон БАРШЧЭЎСКІ
Юры БЕЛЕНЬКІ
Ігар ГЕРМЯНЧУК
Валянцін ГОЛУБЕЎ
Барыс ГЮНТЭР
Лявон ДЗЕЙКА
Лявон ЗДАНЕВІЧ

Уладзімір ЗАБЛОЦКІ
Мікалай КРЫЖАНОЎСКІ
Мікалай МАРКЕВІЧ
Віталь МАЛАШКА
Сяргей НАВУМЧЫК
Сяргей ПАПКОЎ

Пётра САДОЎСКІ
Алег ТРУСАЎ
Аляксандр ШУТ

*Управа Сойму*
*Беларускага Народнага Фронту*

## Истинная «трасянка»

( стар. 3 )

Заява амбасады Злучаных Штатаў Амэрыкі з нагоды падзеяў у Рэспубліцы Беларусь:

Амбасада ЗША зь вялікай заклапочанасьцю разглядае разьвіцьцё палітычных падзеяў на Беларусі, асаблівую трывогу выклікала прымяненьне сілы супраць дэпутатаў Вярхоўнага савету ў зале паседжаньняў. ЗША настойліва заклікаюць для вырашэньня палітычных супярэчнасьцяў мірным ды дэмакратычным шляхам пры поўным захаваньні правоў чалавека ў адпаведнасьці зь міжнароднымі пагадненьнямі, якія падпісала Беларусь.

## Аб прапановах дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А.А.ТРУСАВА

( стар. 3 )

*Евгений ПЕСЕЦКИЙ, специально для "БМ":*

## Куропаты были. Куропаты будут?

Фоторепортаж на стр. 6

## Парламент "некушамши" до пятницы. А мы?..

● Парламент-шоу

# Каму гэта патрэбна?

**На апошніх пленарных пасяджэннях апошняй сесіі Вярхоўнага Савета ўпершыню пашкадавала, што назіраць за гэтым найцікавейшым відовішчам дазволена, акрамя, вядома, непасрэдных удзельнікаў — народных дэпутатаў, вельмі абмежаванаму колу —акрэдытаваным у парламенце журналістам ды запрошаным міністрам і так званым адказным работнікам. На жаль, нашы сродкі масавай інфармацыі, асабліва тэлебачанне і радыё, даюць вельмі кароткія і спецыфічна зманціраваныя справаздачы з сесіі. А там адбываюцца такія захапляльныя падзеі, разыгрываюцца такія драмы і камедыі, што, калі б прадавалі білеты на некторыя пасяджэнні, быў бы поўны аншлаг! Мяркуйце самі.**

**Амаль незаўважаным у рэспубліканскай прэсе, ды й у радыё- і тэлядзённіках сесіі засталося абмеркаванне пытання аб дачы згоды Вярхоўнага Савета на ўзбуджэнне крымінальнай справы і прыцягненне да крымінальнай адказнасці дэпутата Вярхоўнага Савета, галоўнага рэдактара газеты «Свабода» Ігара Гермянчука. Каб і нашу газету не абвінавацілі ў абразе кагонебудзь са службовых асоб, прыводзім дакладную стэнаграму раніšняга пленарнага пасяджэння 10 красавіка 1995 года.**

ШАЛАДОНАЎ В.І. (генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь): Уважаемые депутаты Верховного Совета! 27 снежня 1994 года ў газеце «Свабода» быў надрукаваны твор, які называўся «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт». (шум у зале) Па гэтаму твору мы лічым, што была дапушчана абраза прэзідэнта аўтарамі гэтага твора. Я прашу супакоіцца і паслухаць.

СТАРШЫНЯ: Пракурор робіць інфармацыю. Вы павінны вырашаць гэтае пытанне. Я хацеў бы да вас звярнуцца, каб вы ўважліва паслухалі.

ШАЛАДОНАЎ В.І.: В ходе расследования этого дела была проведена экспертиза Институтом литературы Академии наук, которая дала заключение, что в этом виноваты не только авторы, но виноват и редактор газеты, который публично оскорбил президента. Поэтому все обоснования мы изложили письменно; если будет это включено в повестку дня, я буду тады абгрунтоўваць.

СТАРШЫНЯ: Якія пытанні ёсць да пракурора?

НАВУМЧЫК С.І.: Шаноўны Васіль Іванавіч! Шаноўныя дэпутаты! Я, як і вы ўсе, вельмі ўважліва чытаю газету «Свабода» і ў тым ліку прачытаў паэму «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт». Шаноўны Васіль Іванавіч! Жанр гэтага твора — паэма. Гэта літаратурны твор, і калі я яго прачытаў, то я нідзе ў гэтым творы не знайшоў прозвішча Аляксандр Лукашэнка, а вы чамусьці ідэнтыфікавалі галоўнага героя гэтага твора з нашым шаноўным прэзідэнтам. Я хацеў бы, Васіль Іванавіч, запытацца ў вас: на падставе якіх такіх высноў вы ідэнтыфікавалі героя гэтага твора з асобай Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі?

ШАЛАДОНАЎ В.І.: Уважаемый депутат Наумчик! Я сегодня ставлю вопрос о включении в повестку дня. У меня есть все обоснования, которые изложены письменно. И когда мы будем обсуждать этот вопрос, тогда я постараюсь ответить на те вопросы, которые будут возникать. Сегодня ставится вопрос о включении в повестку дня. Не включите — это ваше дело. Вы голосуйте, но я считаю (мы обсуждали это на коллегии), и следователи считают, что здесь есть все основания ставить вопрос о возбуждении уголовного дела и привлечении к ответственности.

СТАРШЫНЯ: Добра, Васіль Іванавіч. Я хачу запрасіць вас пакуль сесіі. Ен і адтуль пачуе вашы пытанні. Калі будзе, то ён адкажа. Васіль Іванавіч, вы зрабіце там паметкі для сябе, якія будуць пытанні, а потым адразу адкажаце.



СЯМДЗЯНАВА Г.Г.: Паважаны Васіль Іванавіч! На вялікі жаль, у адрозненне ад дэпутата Навумчыка я амаль не чытаю газету «Свабода» і не прачытала гэту выдатную, як я зразумела, паэму. І шэраг нашых дэпутатаў таксама не чыталі яе. Перш чым прыняць рашэнне аб уключэнні ці неўключэнні гэтага пытання ў парадак дня, я прапаную раздрукаваць гэтую паэму для ўсіх дэпутатаў, каб мы ведалі, аб чым гаворка (апладысменты)

БАРШЧЭЎСКІ Л.П.: У мяне пытанне. Хто з літаратуразнаўцаў падпісваў гэта заключэнне, які не можа адрозніць прататыпа літаратурнага героя ад літаратурнага героя? І ці праўда, што Генеральная пракуратура зрабіла такое заключэнне, што можна ідэнтыфікаваць паміж сабой асобы Лукі Мудзішчава і паважанага прэзідэнта?

ТРУСАЎ А.А.: У мяне пытанне да спадара Шаладонава. Паважаны спадар пракурор, я да вас звяртаюся, не трэба смяяцца ў той час, калі да вас звяртаюцца. У мяне пытанне такога зместу. Я не ведаю, якія там эксперты рабілі заключэнне па тым, што наш шаноўны, многапаважаны прэзідэнт ёсць герой той паэмы. Але ў мяне пытанне да вас такога зместу. Не раз спадар прэзідэнт па тэлебачанні і па радыё зневажаў народных дэпутатаў — без усякіх паэм, напрамую называў п'яніцамі і гэтак далей. Ці ўзбудзілі вы супраць яго крымінальную справу па гэтаму пытанню?

СТАНКЕВІЧ У.М.: Уважаемые коллеги! В отличие от тех, кто не читал, я читал эту поэму. Кроме низкопробности пера, кроме неуважения и оскорбления собственной газеты и, собственно, того, кто писал, я там ничего не нашел. Это обыкновенная низкопробная писанина, но тем не менее хочу сказать: все это сегодняшнее обсуждение мне напоминает один анекдот. Не подумайте, что я не по теме, я выступаю по теме, и анекдот уважительный. Когда Сталину на стол положили утром бумагу, где он читает, что капитан такой-то сказал в магазине: «Ох, этот дурень усатый довел государство до развала» и двое энкэвэдэшников задержали этого капитана, Сталин вызвал этого капитана и спросил: «Товарищ капитан! Вы кого имели в виду?» Капитан нашелся и сказал: «Гитлера, товарищ Сталин!» Он сказал: «Идите, товарищ капитан. Товарищи энкэвэдэшники, а вы кого имели в виду?» (шум у зале) Вам это ничего не напоминает? (шум у зале)

СТАРШЫНЯ: Добра. Я хацеў бы дакласці паважаным дэпутатам, што мы тут нічога не парушаем. Да мяне афіцыйна паступіла прапанова генеральнага пракурора. Я павінен дакласці вам яе на ваша вырашэнне. У мяне іншага выйсця няма, прабачце. Я не магу яго скласці, не скласці, схаваць і не дакласці вам.

Васіль Іванавіч, пытанні ўсе? Адкажыце, і будзем вырашаць галасаваннем.

ШАЛАДОНАЎ В.І.: Уважаемые депутаты Верховного Совета! Что касается запроса Семдяновой, то это не ко мне. Есть секретариат сессии, пусть размножает. Это не секретный документ.

Что касается вопроса Борщевского, я имею перед собой заключение, подписанное директором Института литературы и так далее, весьма уважаемые люди. Могу размножить и раздать всем, почитаете. (шум у зале) Я это размножу. Оно очень большое, я не буду сейчас его читать. (шум у зале) Что касается вопроса Трусова, то такого дела не возбуждалось.

СТАРШЫНЯ: Добра. Хто за тое, каб уключыць гэта пытанне ў павестку дня, прашу галасаваць.

**Дзякуй Богу, хапіла розуму і мудрасці не смяшыць людзей. Толькі 125 дэпутатаў прагаласавала за прапанову аб дачы згоды на ўзбуджэнне крымінальнай справы і прыцягненне да крымінальнай адказнасці па арт.188 Крымінальнага кодэксу Беларусі (знявага прадстаўніка ўлады) дэпутата Вярхоўнага Савета Ігара Гермянчука. Прапанова генеральнага пракурора не прайшла для прыняцця станоўчага рашэння — не хапіла трыццаці галасоў.**

**Адразу ж скажу, што асабіста я не лічу паэму Ведзьмака Лысагорскага шэдэўрам ці ўзорам паэтычнага майстэрства. Ды й па зместу яна б засталася амаль што не заўважанай, і не толькі мною, каб не ўвага, якую прыцягнулі да яе самі некаторыя нашы ўлады і асобы, набліжаныя да прэзідэнта. (Не думаю, што сам прэзідэнт знаходзіць час чытаць апазіцыйныя выданні.) Камусьці была патрэбна гэта валтузня. Адарваны ад неадкладных спраў супрацоўнікі пракуратуры рэспублікі, шукаюць Ведзьмака. Амаль цэлы акадэмічны інстытут робіць літаратурны аналіз, паважаныя акадэмікі, прафесары праводзяць экспертызу прахадной паэмы. Зноў ідзе паляванне на ведзьмаў?**

**Мы не будзем друкаваць заключэнне Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, падпісанае дырэктарам В.Каваленкам і яшчэ цэлым шэрагам аўтарытэтных навукоўцаў. Пакінем гэты літаратурны «шэдэўр» калегам са «Свабоды». Паверце, таксама вельмі цікавы «твор».**

**І яшчэ адно меркаванне. Падкрэсліваю толькі, што яно не мае ніякага дачынення да паэмы і вышэйнапісанага. Чаму ў нас усе так баяцца гумару, сатыры, нават сяброўскіх шаржаў на вядомых асоб? У суседняй Польшчы ўжо пяць гадоў кожную суботу ідзе па нацыянальнаму тэлебачанню шоу «Polski Zoo», дзе прэзідэнт Валенса — Леў, яго жонка — Малпа, члены ўрада — іншыя звяры. Паверце, вельмі цікава, смешна, трапна, дасціпна. Па каналу НТБ кожную суботу выходзіць таксама вельмі вясёлая забаўляльная праграма «Лялькі», дзе ёсць і Ельцын, і Чарнамырдзін, і Грачоў з Гайдарам. І нічога — нармальная палітычная сатыра. А у нас, нават калі 1 красавіка пажартуеш, адразу ж «справу прышыюць» (як было і з нашай «нябожчыцай»-радыёстанцыяй «Беларуская маладзёжная»). Так што не толькі з эканомікай — з пачуццём гумару ў нас таксама дрэнна.**

